# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 40 (1795) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 7 КАСТРЫЧНІКА 1990 г. ЦАНА 600 зл.


## ЦІ БУДУЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ПАСЛЫ?

Ніжэй друкуем ліст Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў справе прадстаўніцтва нацыянальных меншасцяў у парламенце, які быў накіраваны ў Сейм Рэчыпаспалітай Польскай 15 верасня г.г.

*SEJM RZECZYPOSPOLITEJ POLSKIEJ*

*Wysoka Izbo.*

*Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne po raz kolejny apeluje o umieszczenie stosownego zapisu w Ordynacji Wyborczej do przyszłego Parlamentu Rzeczypospolitej, mocą którego mniejszości narodowe otrzymałyby szansę posiadania w nim autentycznej deputacji.*

*Dotychczasowe prawo wyborcze przekreśla taką możliwość. Wyniki ubiegłorocznych wyborów parlamentarnych w naszym regionie są tego jaskrawym dowodem. Kandydaci białoruscy do Sejmu i Senatu uzyskali w szeregu obwodach na areale etnicznie niepolskim wielokrotną przewagę nad swymi kontrkandydatami. Jednakże nie dało im to zwycięstwa, będąc potraktowani na arytmetycznej równi z innymi. Stąd oczywisty wniosek, iż mniejszość nie może osiągnąć stanu równouprawnienia wobec większości polskiej bez zastosowania określonych preferencji, niwelujących naturalną przecież sytuację nierównorzędności.*

*Ten nasz postulat mylony jest z pojęciem przywileju. Jest to nieporozumienie semantyczne, co ostatnio znalazło swój dobitny wyraz w obsadzaniu stanowisk kierowniczych w Rejonowych Urzędach Administracji Rządowej właśnie na Białostocczyźnie. Wychodząc z założenia, iż terytoria zdominowane przez ethnos białoruski winny być zarządzane z widocznym udziałem osób z jego środowiska, poczyniliśmy odnośne propozycje personalne. Jak było to do przewidzenia, nasze stanowisko w tej sprawie nie znalazło liczącego się poparcia w Sejmiku Samorządowym Województwa Białostockiego. Skomentowano je ponadto jako próbę preferowania jednych grup obywateli kosztem drugich, zupełnie nie postrzegając, że akurat, dokładnie, tak się stało, zwłaszcza w stosunku do rejonów hajnowskiego i bielsko-podlaskiego, gdzie żywioł polski nie stanowi nawet względnej przewagi. Natomiast w skali całego województwa, jak i w składzie samego Sejmiku Białorusini — rzecz jasna — są ewidentną mniejszością.*

*Korzystając z niektórych wzorców zachodnioeuropejskich w tym zakresie, jesteśmy zdania, iż Ordynacja Wyborcza powinna zawierać skromny nadlimit foteli w Sejmie i Senacie dla przedstawicieli znaczących mniejszości narodowych, żyjących w diasporze. Miejsca te zostałyby — ewentualnie tylko — obsadzone przez kandydatów pokonujących z najlepszymi rezultatami ustalony próg, np. dwóch i pół procenta oddanych na nich głosów wyborców w danym okręgu. W przypadku zaś mniejszości zasiedziałych od wieków na odrębnym areale etnicznym, ów próg zręczniej byłoby zastąpić tworzeniem, geograficznie i administracyjnie adekwatnych okręgów wyborczych.*

*Naród Białoruski Rzeczypospolitej Polskiej nie może być pozbawiony własnego głosu na najwyższym forum Państwa, które w istotnym stopniu współtworzy.*

*Przewodniczący Rady Głównej Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego w Polsce*
*mgr SOKRAT JANOWICZ*

*Koordynator Zarządu Krajowego Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego w Polsce*
*mgr WIKTOR STACHWIUK*

---

**А вось адказ Маршалка Сейма:**

*Uprzejmie informuję, że otrzymałem pismo Waszego Zjednoczenia w sprawie umieszczenia zapisu w Ordynacji Wyborczej.*

*Uważam, zaprezentowany wniosek o stosownym uregulowaniu w Ordynacji kwestii mniejszości narodowych za godny rozważenia.*

*Dlatego przesłałem pismo do Komisji Nadzwyczajnej d/s Ordynacji Wyborczej.*

*Z wyrazami szacunku*

*Marszałek Sejmu RP*
*MIKOŁAJ KOZAKIEWICZ*
*Warszawa, 21.09.1990 r.*



**Залатая восень.**

## Як мы стварылі „Бацькаўшчыну" або Гарох з капустай па—беларуску

10 верасня ў Доме пісьменніка ў Мінску адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына". Ідэя згуртавання паявілася месяцаў пару назад, вядома было нам на Беласточчыне, што існуе нейкі арганізацыйны камітэт, але канкрэтных звестак ніхто не меў. Тыдзень перад канферэнцыяй у Беласток дайшла брашура з праектам статута „Бацькаўшчыны". Сакрат Яновіч падрыхтаваў салідную прамову на канферэнцыю. Акрамя старшыні БДА ў Мінск выбраліся Віктар Стахвюк, Юрка Ляшчынскі, Мікола Ваўранюк, Багдан Сіманенка і Ян Максімюк. Ехалі з надзеяй, што вось, нарэшце, зваліцца высокі мур паміж беларусамі ў БССР і па-за яе межамі, асабліва на Беласточчыне і ў эміграцыі на Захадзе.

Канферэнцыя пачалася, як не трэба горш: нейкім зацяжным канцэртам са спевамі і танцамі. Але нічога, неяк стрывалі. З'ехалася чалавек трыста, прадстаўнікоў беларускіх суполак і арганізацый з БССР, з Прыбалтыкі, неабсяжных абшараў РСФСР, Казахстана, Украіны. Канферэнцыю, фактычна, распачаў Васіль Быкаў сваёй прамовай. Было гэта адно з тых выступленняў, якія запамінаюцца надоўга. Нездарма называюць гэтага пісьменніка сумленнем беларускай нацыі. Васіль Быкаў ацаніў сягонняшнюю сітуацыю на Беларусі з пазіцыі бескампраміснага маралі́ста. Сцвердзіўшы, што на нашых вачах на Беларусі знікае не толькі гістарычная, нацыянальна-культурная, але і элементарная біялагічная перспектыва, спрычыненая гадамі паслядоўнага атручвання народу ідэалогіяй, да якога дайшла яшчэ чарнобыльская радыеактыўная атрута, пісьменнік даў бескампрамісную ацэнку беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, якая нясе вялікую віну за занепад і разбурэнне духоўнага і нацыянальнага жыцця ў рэспубліцы. У ніводнай рэспубліцы Савецкага Саюза не назіраецца такога капітулянцтва інтэлігенцыі, як у Беларусі. Пасля сталінскіх урокаў, сцвердзіў В.

(Працяг на стар. 6)

## НА мяжы

— 7 —

І ўсё-такі прагнуў бы я падкрэсліць, што беларускае пісьменніцкае асяроддзе адыграла значную ролю ў захаванні беларускай нацыянальнай свядомасці. Праўда, большасць пісьменнікаў не навучыла сваіх родных дзяцей размаўляць пабеларуску. Жонкі многіх з іх таксама не праяўлялі энтузіязму да роднай мовы, аднак Саюз пісьменнікаў БССР быў заўсёды базісам беларускіх ідэй. Тут было сказана нават найдаважнейшае слова ў абарону беларускай мовы, не баючыся, што аб гэтым слове даведаюцца хутка ў органах. Былі і выключэнні, аднак рэдкія. Нічога таму дзіўнага, што ў апрацоўцы праекта Закона аб дзяржаўнасці мовы пісьменнікі адыгралі вядучую ролю. І ўсё ж такі, калі думаю аб Саюзе пісьменнікаў БССР, дык не магу пазбыцца не толькі здзіўлення, але і абурэння. Прычынамі іх з'яўляецца тое, што будынак Саюза пісьменнікаў БССР далёкі яшчэ ад беларусізацыі. Практычна ўсе чыноўнікі Саюза пісьменнікаў паслугоўваюцца рускай мовай і, наколькі мне вядома, ні адзін з іх не адчувае з гэтай прычыны найменшай прыкрасці. Мала гэтага, не раз мне давялося быць сведкам, як пісьменнікі, якія выконваюць у Саюзе пісьменнікаў высокія функцыі, са сваімі падначаленымі-чыноўнікамі размаўляюць парусску. І гэтага ніяк зразумець не магу. Чаму гэта выдатны пісьменнік, высокі функцыянер у Саюзе пісьменнікаў, падпарадкоўваецца сакратаршы, гардэробшчыцы або вахцёршы і размаўляе з імі па-руску, а яны і ў вус не дзьмуць, не пераймаюцца тым, што стаяць перад выдатным беларускім пісьменнікам і па сутнасці трыумфуюць, бо ў сэнсе мовы не толькі не падпарадкоўваюцца выдатнаму пісьменніку, але падпарадкоўваюць яго сабе! Чакаю, цярпліва чакаю, калі ўрэшце сядзіба Саюза пісьменнікаў БССР стане цвярдыняй беларускасці, у якой па-руску, па-польску, па-ўкраінску ці па-нямецку будуць размаўляць толькі пісьменнікі, якія прыехалі з Расіі, Польшчы, Украіны ці Германіі.

У поўную перамогу беларускага гонару ў пісьменніцкім асяроддзі паверу толькі тады, калі беларускія пісьменнікі не толькі будуць пісаць па-беларуску, але беларускасць будзе поўнасцю панаваць у іх дамах, сем'ях і ўсюды там, дзе яны працуюць. Падобная сітуацыя выступае сярод беларускіх вучоных. Я тут не гавару аб вучоных матэматыках, фізіках ці медыках. Маю на думцы тых навуковых супрацоўнікаў, якія займаюцца беларускай мовай і літаратурай. Словам, аб тых, якія атрымалі за беларускасць высокія навуковыя званні, функцыі, адным словам, такіх, якія жывуць дзякуючы беларускаму слову. У іх дамах квітнее наогул не беларушчына, але рушчына. Як дзіўна выглядаюць выдатныя беларускія вучоныя, якія, выпіўшы дзве чаркі гарэлкі, пачынаюць блытаць беларускую мову з рускай, а выпіўшы яшчэ дзве чаркі, пераходзяць на чысцейшую рускую мову.

Зрэшты, не заўсёды патрэбны чаркі. Часта і без чаркі руская мова гучыць у іх вуснах як нешта гордае і найпрыгажэйшае на свеце.

Гадоў дваццаць таму назад вельмі часта прыязджала ў Польшчу прафесар Ніна Каменская. Выступала яна заўсёды па сутнасці з тым самым дакладам аб дружбе народаў. Зразумела, што заўсёды выступала яна на рускай мове. Калі Н. Каменская выступіла ў Варшаўскім універсітэце, устаў адзін з польскіх прафесараў і сказаў:

— Вы беларуска і прадстаўляеце беларускую навуку. Польшча непасрэдна мяжуе не з Расіяй, а з Беларуссю. Беларусь нам блізкая вельмі па многіх гістарычных і актуальных прычынах. Беларуская мова нам бліжэйшая, чым руская. Просім вас выступаць не на рускай, але на беларускай мове.

Усе сабраныя запляскалі ў далоні, падтрымліваючы словы прафесара, ну і прафесар апынулася, што называецца, паміж молатам і кавадлам. Была прымушана гаварыць па-беларуску. Мой Божа, сціскалася ад болю ды і ад сораму сэрца, слухаючы дакладчыцу. Тое, што ў яе галаве было цэлымі гадамі ўкладзена паводле норм рускай мовы, трэба было перакласці на беларускую мову, якую дакладчыца чула, але ніколі ёю не паслугоўвалася. Лёгка сабе ўявіць, як гэта мізэрна ўсё гучэла. Мучылася дакладчыца, мучыліся і слухачы, і зразумела, што тыя сярод іх, якія не мелі кантакту з беларускай мовай, думалі: якая яна нікудышняя, гэта беларуская мова! Тым часам была вінавата не мова, а тая асоба, якая ёю некампетэнтна паслугоўвалася.

**Алесь Барскі**

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

---

## З мінулага тыдня

**З праваслаўнага манастыра ў Яблачыне былі ўкрадзены чатыры іконы** неацэненай гістарычнай і сакральнай вартасці. Сярод іх была ікона з вывай патрона мясцовай царкы св. Ануфрыя, а таксама іконы Хрыста і Божай Маці Яблачынскай. Зладзеі ўвайшлі ў храм праз акно, раней выламаўшы краты. Паліцыя вядзе пошукі злачынцаў.

**Вярнулася на Беларусь група 103 дзяцей з чарнобыльскай зоны**, якія ў верасні на працягу трох тыдняў пабывалі ў Беластоку. Пабыўку гэтым дзецям арганізавалі: Польскі камітэт „Дзеці Чарнобыля", Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне і праваслаўныя прыходы.

**Прадстаўнік Міністэрства ўнутраных спраў Расіі** паведаміў, што службы бяспекі арыштавалі некалькі чалавек, якія падазраюцца ў нападзе і забойстве **айца Аляксандра Меня.**

**Польска-літоўскі сімпозіум** пад лозунгам „Польскасць-літоўскасць-універсалізм" праходзіў у Віграх у Сувальскім ваяводстве. З польскага боку арганізатарам сімпозіума з'яўляецца Агульнапольскі клуб прыяцеляў Літвы, а з літоўскага боку — Саюз палякаў у Літве і Федарацыя таварыстваў па культурнай сувязі з заграніцай. Канферэнцыя праводзілася з мэтай пачаць інтэлектуальны дыялог, які мае стаць асновай польска-літоўскага дыялогу. Другая частка сімпозіума адбылася ў Друскеніках на Літве.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Літвы Вітаўтас Ландсбергіс** заявіў, што, магчыма, Крэмль не толькі на словах, але на практыцы рашыцца пачаць перагаворы з Літвой. Падставу такому сцвярджэнню далі вынікі сустрэчы прэм'ер-міністра Літвы Казіміры Прунскене з прэзідэнтам СССР Міхаілам Гарбачовым у Маскве.

**Маскоўскі партыйны клуб,** які прадстаўляе правадыроў маскоўскіх партыйных арганізацый КПСС, асудзіў мэра Масквы Гаўрыіла Папова і звярнуўся да грамадзян з заклікам прыняць удзел у святкаваннях у гонар Кастрычніцкай Рэвалюцыі.

**Стварыўся шанц на экспарт бульбы на ўсход.** Беластоцкія ГСы пачалі скупку для фірмы Полькоп, якая падпісала дагавор на пастаўку бульбы для Узбекістана. У Маскве вядуцца перагаворы наконт пастаўкі вялікай колькасці бульбы з усяе Польшчы.

**У калгасах у Вульцы-Нурэцкай і Тымянцы,** што на Беласточчыне, стаяць яшчэ няскошанымі дзесяткі гектараў жыта.



## ЦЯЖКАЯ ДАРОГА ДА ТАЛЕРАНТНАСЦІ

Беласточчына з'яўляецца той часткай Польшчы, дзе пражываюць людзі розных нацый і веравызнанняў. Тут, у эканамічна адсталай усходняй частцы ваяводства найбольш праваслаўных беларусаў. Сёння, як і раней, не ліквідуюцца гаспадарчыя дыспрапорцыі, а нацыянальная структура грамадства не адлюстроўваецца ў новастваранай пасля апошніх выбараў дзяржаўнай адміністрацыі.

Грамадства ўсходняй Беласточчыны мела надзею, што новыя кадры будуць падбірацца паводле прынцыпаў адукаванасці, умельства, прафесійнасці і лаяльнасці да ўлады. Аднак, калі паглядзець на тыя змены, што адбываюцца ў паасобных гарадах і мястэчках, то можна заўважыць штосьці іншае. Гэтае пытанне ставілася на сустрэчы з дзеячамі Сацыял-дэмакратыі Рэчыпаспалітай Польскай у Бельску-Падляшскім. Удзельнікаў схода ўстрывожыў факт, што звальняюцца з працы ў бельскім праўленні горада перш за ўсё беларусы і праваслаўныя. Беларуская грамадскасць адчувае гэта як праяву дыскрымінацыі і неталерантнасці.

Раю ўсім зацікаўленым лепш прыглядзецца да сённяшняй кадравай палітыкі ў Ваяводскай управе, праўленнях гарадоў, гмін ці іншых установ, якія вырашаюць аб палітычным, грамадскім і гаспадарчым жыцці ваяводства. Лёгка заўважыць, які ў гэтых органах удзел беларусаў праваслаўнага веравызнання. А ўсім жа вядома, што непрысутныя не маюць рацыі і што не будзе каму заступацца за нашыя інтарэсы.

Узнікае пытанне: ці сапраўды беларусы такія інтэлектуальна адсталыя, што нельга ім даручыць працу ў дзяржаўнай адміністрацыі? Адкуль жа тая дыскрымінацыя і неталерантнасць?

Падобныя пытанні, а таксама справы гаспадарчага і культурна-асветнага жыцця, ставіліся на сустрэчы гайнаўскіх дэлегатаў на І Ваяводскі з'езд С-дРП. І ў Бельску-Падляшскім, і ў Гайнаўцы была падтрымана ідэя стварыць Раду нацыянальнасцяў С-дРП у Беластоку, якая занялася б усімі праблемамі, вынікаючымі з нацыянальнай і рэлігійнай спецыфікі ваяводства.

Мы, беларусы — члены і сімпатыкі С-дРП лічым найважнейшай каштоўнасцю Айчыну, Польшчу, у якой жывем ад вякоў і якой ад вякоў служым. Як грамадзяне сумленна выконваем свае абавязкі і прытрымліваемся законаў, шануем дзяржаўныя сімвалы. Але будзем дамагацца ўмоў жыцця, абаснаваных на талерантнасці, гуманізме і ў духу хрысціянства.

Рада нацыянальнасцяў будзе супрацоўнічаць з прадстаўнікамі ўлад, партый, арганізацый, устаноў і касцёлаў розных веравызнанняў, зацікаўленых вырашэннем нацыянальных пытанняў, а таксама будзе супрацьставіцца ўсялякім праявам нацыяналізму, канфрантацыйных дзеянняў, будзе працаваць дзеля інтэграцыі асяроддзя і захавання грамадства для сужыцця згодна з Дэкларацыяй Правоў Чалавека.

**Янка Зенюк**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 372


# АЛЕСЬ ЧОБАТ

**Нарадзіўся ў Скідалі Гродзенскай вобласьці. Скончыў Беларускі тэхналагічны Інстытут у Менску. Інжынер-канструктар. Працаваў на заводах у Гародні. Цяпер супрацоўнік бюро прапаганды Саюза пісьменьнікаў. Сябра БНФ „Адраджэньне“ і Дэмакратычнае партыі Беларусі.**



* * *

Звар'яцею ад роднага краю!
Тут зламаюць любое скрыдло
і прабачаць,
і прымуць да раю —
абы толькі ўсё ціха было.

Шчодрасьць наша мацней усіх
звычак!
Тут астатняе ў душах сьвятло
аддадуць, прададуць
і пазычаць —
абы толькі ўсё ціха было.

Што дурны — што занадта
сьвядомы.
Паяднала іх даўняе зло:
выракаюцца сына і дома —
абы толькі ўсё ціха было.

Толькі горш усіх сварак
і спрэчак
і халодных выгнаньняў люцей
абыякавасьць родных мястэчак
і бязьлітаснасьць блізкіх
людзей...

* * *

Сьмяецца дурань мястэчковы
з пакутаў матчынае мовы —
за ім і тэхнікум, і пых.

Жыве і сьпіць — бяды ня мае,
начальства бок яго трымае —
само выходзіла з такіх.

Асілак з розумам калекі
не адчувае небясьпекі
зрабіцца мёртвым пры
жыцьці.

Сам хлопец жвавы і вясёлы,
але другой такой жывёлы
на ўсім падворку не
знайсьці.

* * *

Зіма. Адліга. Чорная дарога.
Жывых няма і мёртвыя
далёка —
ні зорачкі, ні края, ні мяжы.

І цесна ценям, і самотна душам,
як жабракі, па чорным сьвеце
кружым —
крыжы і ямы, ямы і крыжы.

Бацькі ня хочуць да шыхтоў
з сынамі,
чужы і мілы край яшчэ ня з
намі —
ні памяці, ні роспачы,
ні сьлёз.

Паклёп і куля выклятых
ня страшаць,
а не клянём і мы чужынцаў
нашых —
праклятым будзь бязь лёсу
вечны лёс.



* * *

Добры геній ад мараў ня хоча прачнуцца,
а зайздросьніку злому ня сьпіцца ізноў,
патрыёт не жадае на сьвет азірнуцца,
а прыхільны да іншых ня мае сяброў.

У халоднага сэрцам ёсьць розум і вочы,
а гарачыя душы здурнелі ад сьлёз,
працавіты і здольны больш верыць ня хоча,
а зьнявераны скача і ладзіць нам лёс.

Так і цягнемся мы ад пачатку да скону,
так і душым людзей ды ратуем пачвар,
так і кідае нас ад мальбы да праклёну,
так і робім з Айчыны зьдзічэлы абшар.

* * *

Калі мой край перажыве мяне
і будзе вольны ад чужога грыма,
няўжо і вас віхура абміне,
асаднікі і парабкі рэжыма?!

Барацьбіты за веру і спакой, —
і свой, і тых, каму высока падаць, —
няўжо і вас прыгрэе пад рукой
кароткая бяспамятная памяць?

Няўжо і вам спакойна паміраць,
а не плаціць і не ўцякаць за мора,
маленькая агідненькая шаць
часоў праклёнаў і сьляпога гора...

* * *

У паўстанцаў заўсёды
прамы і аднолькавы лёс —
касінераў забітых
апусьцяць на дол патаемна,
а жывым касінерам
з пакутай, — ці ўсё не
дарэмна? —
шлях на сьпёку Тэхаса
або на сібірскі мароз.

Асірочаны край
адступае на сорак гадоў,
каб ізноў агрызнуцца
халодным і страшным жалезам,
да апошняга хутара
біцца мужыцкім абрэзам —
тут малая цана
на сваю і варожую кроў.

Апустэчаны край
адступае далей і глыбей,
забіваецца ў душы,
цураецца ўласнае мовы,
а ратунку ня мае —
і цэліць наган у галовы,
аж на ботах у ката
зьвісаюць мазгі, як рапей...

О, краіна упартых!
Твой парастак толькі падрос,
а зубамі скрыжэ —
бо пануюць чужыя героі;
ён спачатку да кніжак,
а потым ужо і да зброі —
у паўстанцаў заўсёды
прамы і аднолькавы лёс.

* * *

У восені малюнак свой і строй,
а дым бульбоўніка паслаўся
над зямлёй,
і вечар цягнецца прысадзьдзя
доўгім ценем...

Час не ляціць і не гудзе
чмялём,
а хмары намалёваны вуглём,
і гнёзды ўжо астыглі,
апусьцелі...

Не прагне сэрца бою і агню,
але баліць душа — і ўпершыню
бярэ за горла край, людзьмі
забыты...

Ах, божа мой, чаму спакон
вякоў
не выпускае восень хлапчукоў,
чый лёс, як ліст, дажджом
і ветрам змыты...



* * *

Нам не сустрэцца больш ніколі,
прыйшла пара пацiснуць рукі,
і па сваёй уласнай волі
мы разьвіталіся без мукі.

Нам не па дваццаць год з табою,
мы вінаваціцца ня будзем,
але нідзе няма спакою
паважным і дарослым людзям.

Мне дагэтуль сьніцца часам, —
хто ж не належыць успаміну? —
як мы ізноў з табою разам
вясной паедзем на радзіму.

Там і цяпер старая сьліва
на стрэху белы цьвет губляе,
а сэрца беднае шчасьліва
ад прыгажосьці замірае.

Калі закружыць час
няўмольны
і па вандроўках нас
раструшыць,
мы станем тут — і Нёман
вольны
дасьць адпачынак нашым
душам.

Цяпер і ты другою стала,
і я свайго жыцьця ня кіну,
але пакуль ня ўсё прапала,
давай паедзем на радзіму.

## ПОГЛЯДЫ

# ЯК У ПРЫКАЗЦЫ

**Калі Бог хоча кагосьці пакараць, найперш адбярэ яму розум. Так сталася і з тымі, што думаюць, нібы хопіць публічна выварочваць вочы да Бога, і будзе ўсё выбачана, усё даравана.**

**На другі дзень пасля ліквідацыі помніка ўдзячнасці Савецкай Арміі ў Беластоку я сустрэў чалавека, які, хаця не займаецца палітыкай і толькі дбае, каб добра паесці, мець прыгожую кватэру, ды час ад часу выпіць, сказаў мне:**

**— Тое, што цяпер робяць палякі з помнікамі савецкім салдатам, гэта найгоршае глупства, бо знішчаюць помнікі салдатам, якія не па сваёй віне гінулі. Палякі настройваюць супраць сябе не толькі сталіністаў і энкавэдзістаў, але ўвесь савецкі народ.**

**Ці ж гэта не праўда? Ці ж хлопец з Татарыі, Казахстана, Кіргізіі, Арменіі, Азербайджана хацеў, а мо нават дабіваўся таго, каб загінуць, вызваляючы Польшчу? Не хацеў гэтага і хлопец беларускі ці ўкраінскі, які толькі пачынаў жыць. Ён хацеў жыць, працаваць, кахаць, а не кіснуць у акопах і пасля налажыць галавой за вызваленне нязнанага яму польскага горада ці манастыра. Не ведаю, чаму ў выказванні п.з. „Героі“ рэдакцыя „Нівы“ выкрэсліла вельмі істотныя, на мой погляд, канстатацыі, якія данеслі б да сведама злачынцаў, што яны іменна злачынцы. Калі я напісаў, што маладому савецкаму чалавеку, які не робіць ніякае палітыкі, пляваць на Польшчу, а не за яе аддаваць маладое жыццё, дык я свае словы бяру на сябе.**

**Мяне залівае гарачая кроў, калі я перад тэлекамерай у час развалкі помніка ў Беластоку бачыў сцерву, якая абзывае савецкіх воінаў бандытамі, а мяне бальшавіцкім служакам, мне хочацца плюнуць у яе вочы, але гавару:**

**— Ці пані памятае, як у час вайны наш народ складаў да Бога рукі, каб той дапамог хутчэй прыйсці Савецкай Арміі і выратаваць тое, што яшчэ выратаваць можна?**

**Баба аж плюе са злосці, што савецкія тут не былі патрэбныя, бо палякі самі вызваліліся б. У тую хвіліну падыходзіць да мяне якісьці чалавек і шэпча:**

**— Пане, з кім вы спрачаецеся? Гэтая жанчына не заслугоўвае аднаго вашага слова! Гэта ж яна выдала акоўскага салдата немцам у Лапскім павеце!**

**Так, учарашнія злачынцы хочуць быць героямі, бо думаюць, што аб іх забылі. Я пераканаы, што баба, якая цешылася разбурэннем помніка „ганьбы“, як напісала КПН, нават не падумала, што хтосьці яе ведае і мне аб гэтым скажа. І яшчэ мяне залівае кроў, што аб такіх далікатных і заблытаных справах гавораць такія аўтарытэтныя „вучоныя“ журналісты ды артысты, як Анна Галушка ці Яанна Шчэпкоўская, бо ім бацькі так расказвалі. Але чамусьці такія бацькі не хваляцца, як палілі чужыя вёскі і забівалі чужых людзей на Беларусі і Украіне, служыўшы ў легіёнах, а пасля другой сусветнай з „чужынцамі“ расправуляліся тут, у Польшчы. І то расправуляліся толькі за тое, што беларусы асмельваюцца быць праваслаўнымі і не хочуць адгэтуль выязджаць за мяжу.**

**Так, некаторыя польскія палітычныя групоўкі робяць глупства за глупствам, не думаючы, што гэта можа кепска адгукнуцца.**

**ВАСІЛЬ ПЯТРУЧУК**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Тыкоцін. Мал. У. Петрука.*

## САКРАТ ЯНОВІЧ
# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

— 15 —

Страшнавата было слухаць у Мінску, што выратаванне Беларусі і яе народа немагчыма без знішчэння камунізму. Маё такое сціпнае здзіўленне бралася з таго, што не верылася ў існаванне ідэалогіі, сэнсам якой можа быць смерць замест жыцця. Але мяне завалілі з галавою фактамі, якія сведчаць аб тым, што нават пра нейкую рэштку ідэйнасці ў савецкіх камуністаў надарэмна ўжо і гаварыць. Члены партыі, асабліва іх дзеяцкая эліта, — гэта змоўленыя людзі, у якіх адна-адзінюткая мэта: добра пажыць! У іх выразныя рысы псіхалогіі акупантаў, шанцоўнікаў.

У такіх руках знаходзіцца Беларуская ССР. Як доўга так пабудзе? Залежыць гэта ад часу, які сталі беларусамі. Свядомая свайго нацыя характарызуецца найперш развітым пачуццём бацькаўшчыны. Яна тады эліміўе быдлячую „філасофію жывата“, гідзіцца эмацыянальным прымітывізмам „жарабца на начлезе“. Людзьмі зваца! — вось лозунг новых беларускіх газет ды часопісаў.

Не забывайма і пра міжнародны аспект некаторай трываласці таго рэжыму без сумлення і роду: свет баіцца раптоўнага распаду СССР. Такі кантынентальны грукат зруйнаваў бы палітычна-мілітарную раўнавагу ад Амерыкі да Японіі і ад Нарвегіі да Аўстраліі. Таму стаўка на Гарбачова і мільярды доляраў яму дзеля ўспамажэння маскоўскіх рэформаў. Нібы парадокс: не столькі Крэмль турбуецца сваімі няўдачамі, колькі акурат яго прынцыповыя працаўнікі ўздрыгваюць на самую падумку такога высознага абвалу. Хоць ясна цяпер і палітычнаму дзіцяці, што нічога — акрамя нечуванай галоты, зверства, войнаў — не даў гэтаму расійскаму закутку на глобусе славуты бальшавіцкі пераварот; і ўсюды там, дзе паверылі яго-ным заклікам. Марксізм — не навука, а ўтопія. Трызна.

Наменклатура ў Беларускай ССР дасканала ведае, што будаванне нацыянальнай самастойнасці — гэта капанне магілы самой сабе. Але ці ёсць іншы выхад? Ну, няма ў сучасны гістарычны момант. Аднак, можа, з'явіцца... І на гэтым „можа“ трымаецца ўся яе тактыка тонучага на вірах. Канцэнтруе яна свае сілы на стратэгічным кірунку процідзеяння беларускаму адраджэнню. Ёсць на ім участкі, на якіх вымушана адступаць, але няшмат. На яе шчасце, фундаменты духоўнай разарванасці Беларусі ўцалелі ад царскіх часоў. На ўсходзе і ў цэнтры рэспублікі „здравствует во всю единая и неделимая“, а на захадзе — усё галасней пяюць „Не жуцім земі, сконд наш руд“. Руска-польская фізіяномія Беларускай ССР гарантуе яе юрыдычную штучнасць, як усяго толькі пераходнай тэрыторыі з неабавязковай якраз адміністрацыйна-палітычнай індывідуальнасцю. От, геаграфічная прастора паміж Смаленскам і Беластокам... На ейных жыццёвых скрыжаваннях „зялёнае святло“ ўсяму рускаму і польскаму, а „чырвонае“, забароннае, — кожнюткай беларускай ініцыятыве, калі яна не лёкайская перад імперыяй. Несарыентаваным у тайніцах эгаістычнай палітыкі „карытнікаў“ здаецца дзівам, чаму савецкая ўлада апошнім часам яшчэ і паланізуе заходнебеларускія вобласці. А таму, менавіта. Чым менш роднага беларускага ў Беларусі, тым спакайнейшы конь кар'еры.

**(Працяг будзе)**






# У СУВЯЗІ З Г.ЗВ. ПАЛЕМІКАЙ

**Даводзіцца пачынаць ад банальнай заўвагі, што мэта кожнай палемікі — гэта ўстанаўленне фактаў, адным словам, праўды, пра што, здаецца, забывае Юры Трачук, палемізуючы з Сакратам Яновічам („Ніва“, № 35 ад 2 верасня г.г.).**

**Трачук памыляецца, пішучы, што хопіць аднаго Лаўмянскага, каб даказаць быццам Яновіч „абсалютна не мае рацыі“. Трох цытатаў з Лаўмянскага станоўча замала на тое, каб даказаць нешта сэнсоўнае. Тым больш, што змест тых цытатаў далёкі ад адназначнасці. Пасля ўважлівага іх прачытання далей застаюцца сур'ёзныя сумненні. Паасобныя сказы і фармулёўкі не пацвярджаюць, а некаторыя нават пярэчаць таму, што з іх дапамогаю імкнецца даказаць Трачук. Лаўмянскі, згадваючы пра існаванне сепаратысцкіх тэндэнцый у Полацку, канстатуе тым самым факт, але тое, што ён недаацэньвае яго належна, трэба аднесці да інтэрпрэтацыі факта, а гэта ўжо зусім іншая справа. Заўважма, што нават недаацэнены факт не перастае быць далей фактам.**

**Фармулёўка „ośrodek sprzymierzony“, якую Трачук нават падкрэслівае, гэта не тое самае, што падпарадкаваны. Існаванне адной мовы і адной культуры не абазначае яшчэ таго, што магла існаваць толькі адна дзяржава. Калі гаварыць пра сувязі і супрацоўніцтва, існуючае паміж Полацкам і Кіевам, то яно таксама не абазначае палітычнай падданасці. Наадварот, сапраўднае супрацоўніцтва магчыма толькі пры ўмове роўнасці бакоў.**

**Цытаты падабраў Трачук не надта шчасліва, відаць, лепшых не знайшоў.**

**Магчыма, што справа незалежнасці, або, як хоча Трачук, — залежнасці Полацкай Зямлі з'яўляецца „адным з кардынальных пытанняў беларускай гістарыяграфіі“, заўважма аднак, што апрацаванне праф. Тэлесфара Пазняка адносіцца да гісторыі беларускай літаратуры. Тое „кардынальнае пытанне“ — гэта толькі фон. Трачук прычапіўся да другараднай справы, бо не меў больш да чаго, толькі тут бачыў нейкі шанц. Цэлую рэшту, гэта значыць, усе сапраўды сур'ёзныя і да таго канкрэтныя закіды Яновіча квітуе ён наступным сцвярджэннем: „Меней**

# З надзеяй на лепшае

Новая гаспадарчая сітуацыя краіны прымушае ўсіх, хто хоча кіраваць прадпрыемствам, гмінай ці нават ваяводствам, шукаць магчымасці і спосабаў узбагачэння сваіх фінансаў. Цяпер ужо ніхто не скрывае, што касы ў нас пустыя. Хаця ўсюды маем новае кіраўніцтва, але не ўсе яшчэ новыя людзі думаюць па-новаму. Час пачаць думаць рэальна.

Да гэтага вываду прыйшлі ўлады Белавежы і ўжо свае прапановы пачалі ўводзіць у жыццё. А калі гэта адразу з карысцю для людзей, — тым лепш.

Мабыць, падобна думаюць загадчыкі Камянецкага і Пружанскага раёнаў у Беларусі. І вось таму дазволілі яны перайсці граніцу 1200 сваім жыхарам.

Анна Байко — войт Белавежы — прызналася мне, што вельмі баялася дня 9 верасня. Як усё гэта арганізаваць для такой колькасці людзей? „Дзесяці мусяць яны пагандляваць, — гаварыла гэта зусім афіцыйна, — трэба задбаць і пра тое, каб іншыя, напр., турысты, маглі нармальна праязджаць праз мястэчка“. А да гэтага патрэбна была яшчэ мастацкая праграма.

Прыемна было, калі ўсё адбылося нармальна, а людзі развіталіся са слязьмі ў вачах. Многія не ехалі толькі з таварам, яны прыехалі наведаць сваіх блізкіх, пабачыць месцы, дзе нарадзіліся. Сярод сурод-



Улады Камянца вітаюць гасцей з Польшчы хлебам і соллю.



Супольная багаслужба праваслаўных і католікаў пры помніку загінуўшым у час вайны жыхарам Белавежы.

чаў з Беларусі былі і такія, якія ад часоў вайны не былі на сваёй роднай зямельцы. Яны не вывозілі ў сваю сённяшнюю хату тавары з базару пры Бэма, а везлі ў мяшочках зямлю з агародчыка каля хаты, дзе калісьці жылі. „Хто яго ведае, — казалі, — можа зноў не пусцяць яшчэ наступных сорак восем гадоў“.

Аднак усё гаворыць аб тым, што сітуацыя змянілася на карысць. Тыдзень пазней больш 800 белавежцаў і гайнавян паехала ў Камянец. І зноў на граніцы аж прыемна глядзець. Тамажнікі без бляску ў вачах заглядалі ў аўтобусы, пагранічнікі не бегалі па вярхах і пад сподамі машын. 45 мінут — і паехалі.

Пасля афіцыйнага прывітання хлебам і соллю дванаццаць аўтобусаў паімчала ў Камянец. Па дарозе — вёскі. У кожнай прыпынак, каб маглі выйсці людзі, якіх ужо тут чакаюць. І далей. Вось і Камянец — прыгожае, амаль дзевяцітысячнае мястэчка, з царкоўкаю на ўзгорку і Белаю Вежаю.

— Вы з Белавежы, а мы з Белай Вежы, — гавораць прыехаўшым тутэйшыя людзі.

Прыемна было бачыць гэтыя сустрэчы і шчырыя прывітанні.

Слухаю, як размаўляюць дзве бабулькі:

— Можа, і сапраўды будзем часцей цяпер бачыцца, толькі, каб ім не адмянілася.

— Пакуль будзе ваш Гарбачоў, будзем ездзіць, — упэўнівае наша, абазнаная, мусіць, з палітыкай белавежанка ці гайнавянка.

— Ну, калі так, дык гавары, што маеш. — І пачынаюць вы-

# Як мы стварылі „Бацькаўшчыну“ або Гарох з капустай па—беларуску

(Працяг са стар. 1)

Быкаў, наша інтэлігенцыя напалохалася на ўсё жыццё. І выхоўвала ў сабе здольнасць да асалоды ад прынукі, несправядлівасці і ганьбы, ператвараючыся ў безнацыянальную абслугу партапарату. Амаль поўнасцю адцуралася ад нацыянальнага моладзь. Мы павінны ўсвядоміць сабе, што цяпер нам ніхто не паможа, гаварыў В. Быкаў. Адраджаць сваю нацыянальную і духоўную існасць мусім мы самі. Трэба вярнуцца да спрадвечных чалавечых, хрысціянскіх вартасцяў, каб адрадзіць нацыянальную свядомасць і старадаўнюю культуру, каб павярнуць нацыю да еўрапейскіх цывілізацый, канчаткова адцураўшыся ад бальшавізму і выкінуўшы з галавы кашмарны камуністычны прывід.

Міністр замежных спраў БССР Пётр Краўчанка ў сваім выступленні заявіў, што сувязі з нацыянальнай эміграцыяй будуць адным са стратэгічных накірункаў у дзейнасці ягонага міністэрства. Маюцца на ўвазе культурныя і эканамічныя сувязі, а таксама супрацоўніцтва з эміграцыяй у арганізаванні дапамогі ахвярам чарнобыльскай навалы. Міністэрства замежных спраў БССР прыкладзе вялікія намаганні дзеля адшукання і вяртання на Беларусь культурных каштоўнасцяў, якія апынуліся ў Расіі і Польшчы, бо іхнюю прыналежнасць вызначалі на падставе рыжскага трактату з 1921 г. Беларусь як дзяржава гэтага трактату не падпісвала, таму нельга лічыць яго дзеючым у дачыненні, між іншым, да культурных каштоўнасцяў суверэннага беларускага народа.

Арганізатары падрыхтавалі на канферэнцыю яшчэ шмат дакладаў і выступленняў. На жаль, няма ў нас месца, каб не толькі пераказаць іхні змест, але і каб упамянуць, хто з якой тэмай выступаў. Сапраўды, было гэтага шмат. Сказаўшы праўдзе, ператварэнне ўстаноўчай канферэнцыі сусветнай асацыяцыі беларусаў у папулярна-навуковую сесію аказалася не надта ўдалым ходам арганізатараў. Па-першае, аўдыторыя была такая, якой не трэба палітычна ці нацыянальна ўсведамляць. Сабраліся людзі якія няблага арыентуюцца ў беларускіх пытаннях, і якія прыбылі з канкрэтнай мэтай: абмеркаваць і ўзгодніць накірункі дзейнасці Згуртавання, задумацца над фінансавым забеспячэннем дзейнасці, прыняць статут і выбраць улады. Па-другое, працягванне „тэарэтычнай“ часткі канферэнцыі так змучыла публіку, што некаторыя пачалі выходзіць з залы, каб распрастаць ногі і глытнуць свежага паветра. Людзі адчулі стомленасць, яшчэ не крануўшы самага істотнага, дзеля якога сюды прыехалі. Увесь сакрэт арганізацыйнага поспеху нейкага мерапрыемства заключаецца ў такім засяроджанні намаганняў, якое у самы кароткі час даводзіць удзельнікаў да мэты. А гэта ў сваю чаргу азначае абмежаванне мерытарычнага і часовага рэгламенту пытанняў да такога, які з'яўляецца самым неабходным. На ўстаноўчай канферэнцыі „Бацькаўшчыны“ шмат што пайшло ўбок і наўскасяк.

Перад полуднем паспеў яшчэ выступіць Сакрат Яновіч, так бы мовіць, дараваўшыся да голасу як першы з прадстаўнікоў ад беларускіх арганізацыяў і суполак па-за межамі БССР. Прамова Сакрата (поўнасцю апублікуем яе ў наступным нумары) як быццам прывярнула людзей да рэальнасці, запыніла ўвагу на канкрэце. Сакрат загаварыў аб канкрэтных, узаемна выгадных, эканамічных сувязях паміж БССР і Беласточчынай як падставе да ўсялякага далейшага супрацоўніцтва. Сказаў, што ў Беластоку патрэбна сталая гаспадарчая місія Беларускай Рэспублікі. У беларуска-беларускіх дачыненнях трэба элімінаваць „азіяцкі хаос“ і пачаць будаваць салідны падмурак. З заканчэння прамовы старшыні БДА я выпісаў наступнае: *Мы прапануем Вам не нейкія цяжары, ад якіх цяпер усе гнуцца і хістаюцца. Прапануем нешта адваротнае — добры рахунак. Рахунак з маральным падтэкстам. Бо толькі заможны народ можа быць і культурным як двухадзінасць фактараў чалавечага развіцця. І хоць свядомасць прыходзіць заўсёды пасля хлеба, то — аднак — трэба памятаць, што адно і другое рэалізуецца ў пары: мала хлеба — мала і свядомасці, культуры. Мала культуры — мала і хлеба. Па закону зваротных сувязяў.* Сакрат выказаў шмат істотных заўваг да статута Згуртавання, асабліва падкрэсліваючы юрыдычнае замацаванне за Згуртаваннем права весці гаспадарчую дзейнасць.

Пасля абеда пачалася дыскусія. Выступалі беларусы з савецкай „дыяспары“. Было выка-

цягваць людзі з сумак тавар, мясцовыя таксама не сустракаюць нашых з пустымі рукамі. Гандаль — тавар за тавар — раскручваецца надобра.

— Пакуль дагаворацца нашыя ўлады і пачнуць прывозіць да іх тавар машынамі, мы мусім падкінуць ім што-небудзь у сумках, — смяецца мой знаёмы з Белавежы.

І, здаецца, гэтак сама думаюць міліцыянеры, якія яшчэ нядаўна за штосьці такое ганялі, а цяпер з цікавасцю прыглядаюцца, хто што прывёз.

— У нас цяпер усё можна, — гаворыць адзін з іх, — у нас цяпер дэмакратыя. Няхай людзі купляюць, калі ў нашых крамах пуста.

У крамах сапраўды пуста, а ў людзей у сумках усё — ад золата да мяса. Адкуль мы гэта ведаем?



*Выступае мастацкі калектыў Камянецкага дома культуры.*

На ўзвышэнні перад домам культуры ідуць прамовы, некаторыя, здаецца, першы раз даведваюцца, хто гэта быў Францыск Скарына, выступаюць калектывы, каля помніка загінуўшым у час II сусветнай вайны і абавязкова каля помніка Леніну — кветкі. Нашыя ўспрымаюць гэта па-рознаму. Чуваць каментарыі, што перабудова пасоўваецца павольна.

А вакол гандлююць. Пры нагодзе сустрэчы трэба таксама выпіць: шчырае беларускае сэрца не шкадуе, гарэлка льецца шырокай ракою, плыве „Распрагайце хлопцы коні“. Але іншыя хочуць іх запрагаць, і робіцца штораз прыямней. І так да ад'езду. Людзі крыху змораныя, дамучацца яшчэ ў аўтобусах па дарозе дахаты.

Прадстаўнікі ўладаў Белавежы і Камянца таксама задаволеныя. Анна Байко гаворыць, што падпісалі ўжо крыху дагавораў, а праз нейкі час падпішуць наступныя. Цераз два-тры месяцы пабачым першыя іх вынікі. Дай Божа!

**Ул. Праховіч**

**Фота В. Рынажэўскага**



*Госці з-за мяжы прыехалі ў Камянец.*

## АГАРОДЧЫК

Кася дбала пра свой агарод. У ім, пачынаючы з ранняй вясны да позняй восені, цвілі кветкі.

Жанчыны з іншых вёсак калі ішлі ў царкву, заўсёды прасілі Касю, каб яна дала кветак на магілкі іх родных. Жанчына давала кветкі, але потым заўсёды шкадавала, што ўсё іх менш у агародчыку.

— Ці ў мяне нейкая квяцярня? — скардзілася Кася мужу. — Што яны сабе думаюць? Няхай сабе купілі б або са свайго агарода рэзалі!

— Ой, ты, Кася, добрая душка! — жартаваў муж. — Ты не ўмееш гаварыць з імі. Я цяпер буду даваць ім кветкі. Пабачыш, яны больш не папросяць.

Прыйшла нядзеля. Кася не выходзіла з дому. Мікола сеў на лаўку і чакаў.

Першая з'явілася жонка солтыса з суседняй вёскі.

— Міколка, — папрасіла, — дай мне пару кветачак на магілу...

Мікола ўвайшоў у агарод і кажа, паказваючы на кветкі:

— Гэтая кветка — дзвесце злотых, тая — пяцьсот, а тая — тысячу, а вось гэтая — дзве тысячы. Якую вам даць?

— То... дайце мне тую за дзвесце! — сказала жанчына і пайшла.

Так было і з іншымі жанчынамі. Мікола натаргаваў дзве тысячы злотых. Кожнай жанчыне было сорамна адыходзіць з пустымі рукамі.

На другую нядзелю ніхто не прыйшоў па кветкі, так было і пазней.

Кася далей дбае пра свой агарод. Растуць там прыгожыя кветкі.

**Аўрора**

зана шмат ідэй і думак, але ў мяне склалася ўражанне, што ідэі гэтыя лунаюць высока ў паветры і ніяк не могуць зазямліцца. „Бацькаўшчына“ ўсё яшчэ заставалася нейкім расплывістым аб'ектам, збольшага абрысаваным у брашуры з праектамі праграмных дакументаў. Можа, варта тут адзначыць выступленне вайскоўца з Казахстана, афіцэра (ягонае прозвішча мне не запамяталася), які выказаўся рашуча за стварэнне беларускай нацыянальнай арміі як кузні нацыянальна свядомых і мужных беларусаў. Паводле яго, дэклараваныя тут і там ідэі накшт нейтралітэту Беларусі і яе будучыні як „бяз'ядзернай дзяржавы“ з'яўляюцца памылковымі. Асяроддзе вайскоўцаў прытрымліваецца іншага меркавання, якое можна ахарактарызаваць фразай: „Незалежная Беларусь — моцная ядзерная дзяржава“. Адзначым, што ў войсках паветранай абароны СССР служыць каля 8 тысяч беларусаў, пераважна афіцэраў.

Дыскусія неяк закончылася па-божаму, без асаблівых скандалаў. Потым пачаліся выбары ў Раду Згуртавання. Лепш было б мне не бачыць гэтых выбараў. Але што зробіш? — пабачыў. Перад удзельнікамі канферэнцыі быў зачытаны даўжэзны спісак кандыдатаў у Раду Асобаў семдзесят, або і болей, у асноўным з Мінска. Гэта страшэнна ўсхвалявала публіку, паколькі толькі лічаныя асобы з таго спіска прысутнічалі на канферэнцыі. Для большасці ўдзельнікаў нават прозвішчы кандыдатаў былі незнаёмыя, не гаворачы ўжо пра асобы. Старшыня аргкамітэта, вядомы літаратуразнаўца Яўген Лецка, стараўся пераканаць прысутных, што кандыдаты ў спіску — гэта шчырыя беларусы і займаюць адказныя пасады, гэта значыць, уплывовыя. Гэта, як і трэба было спадзявацца, толькі завастрыла сітуацыю. Пачалося нешта накшталт галасавання за кандыдатаў у спіску, але пры агульным неадабральным вэрхале. Людзі пачалі пакідаць залу канферэнцыі. Над „Бацькаўшчынай“ павісла пагроза развалу. Тады прэзідыум вырашыў пакінуць загадзя нарыхтаваны спісак і паставіць кандыдатаў ад прысутных у зале. Рада мела быць малалікай і апаратыўнай. „Скляпалі“, інакш гэтага нельга акрэсліць, новы спісак кандыдатаў, у які трапілі беларусы з усяго азіяцкага і еўрапейскага Савецкага Саюза, а таксама і нехта з Беласточчыны (нат цяпер я дакладна не ведаю, хто) і давай галасаваць. Прагаласавалі. Тады прэзідыум зноў вярнуўся да папярэдняга спіска. Мне не хапае слоў і сумлення, каб апісаць тое, што пачалося. Я пабачыў, што Сакрат Яновіч блізкі сардэчнага прыступу. Пабег да яго і кажу: „Давай уцякаць, калі хочам яшчэ крыху пажыць“. І апошняя сцэна, якая ўрэзалася мне ў памяць на ўстаноўчай канферэнцыі Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына“, была такая: адзін чалавек стаяў на эстрадзе ў зале пасяджэнняў Дома пісьменніка і нешта крычаў да публікі. Другі крычаў праз мікрафон на трыбуне. Трэці хадзіў вакол яго і нешта яму крычаў на вуха. А публіка стаяла, махала кулакамі і таксама нешта крычала да тых на эстрадзе. Абліваючыся халодным потам, мы вылецелі з Сакратам з Дома пісьменніка, адбегліся кіламетраў паўтара і тады закурылі. Была дзевятая ўвечары.

Як усё закончылася, давялося высняць назаўтра. Была выбрана Рада Згуртавання, бадай, ці не 103 чалавекі. Старшынёю Рады стаў Яўген Лецка. Прэзідэнтам Згуртавання быў выбраны Васіль Быкаў (без ягонага ведама і згоды). Яўген Лецка, калі мы размаўлялі на другі дзень, сказаў мне, што В. Быкаў даў згоду ўзначаліць Згуртаванне, ужо пастфактум.

Пасля ўсяго гэтага ў галаву прыходзіць некалькі невясёлых думак. Велізарная Рада не мае аніякага шанцу сабрацца на пасяджэнне ў поўным складзе (цяжка сабе ўявіць, што кожны раз будуць з'язджацца ў Мінск людзі, якія жывуць у бязнадзейна далёкіх закутках Савецкага Саюза). Выглядае на тое, што ўжо на самым пачатку Згуртаванне паралізавана сваю дзейнасць. Не вельмі вядома, адкуль узяць грошы на тую дзейнасць. Яўген Лецка ўпамінаў мне пра турыстычнае бюро пры Згуртаванні, як пра адну, самую рэальную на пачатак, форму здабывання сродкаў. Ведаючы аднак абставіны, у якіх ствараліся Згуртаванне, і „пашпартную сітуацыю“ ў СССР, цяжка разлічваць, што гэтае бюро адразу разгорне прыбытачную дзейнасць. Магчыма, „Бацькаўшчыне“ будзе нейкая падтрымка ад ураду БССР (пра гэта сведчыла б прысутнасць міністра замежных спраў на канферэнцыі). А што тады з „Радзімай“? Будуць існаваць дзве арганізацыі па сувязях з суайчыннікамі за мяжою? Шмат такіх пытанняў лезе ў галаву і застаецца без адказу.

Справа з „Бацькаўшчынай“ паказала, як цяжка нам, беларусам, арганізавацца. Усё яшчэ верх над здаровым розумам бяруць у нас бальшавіцкія навыкі і ўхваткі. Пазбыцца іх мы пакуль што не ў сіле. Хаця... хто ведае? Можа, я тут усё бачу ў занадта чорным святле? Можа, „Бацькаўшчына“ стане сапраўдным лучнікам раскіданых па свеце беларусаў з іхняй Бацькаўшчынай?

**Ян Максімюк**

Быццам грыбы пасля дажджу на прэсавым выдавецкім рынку паяўляюцца загалоўкі ўсё новых газет, тыднёвікаў, часопісаў. На падмену тым, якія, не прыжыўшыся, пасля кароткага часу свайго існавання, знікаюць, прыходзяць наступныя і наступныя. Тыдні тры назад, як далейшы працяг быту „Тыднёвіка Беластоцкага", што пасля свайго некалькімесячнага жыцця быў адкінуты чытачамі, паявіўся новы тыднёвік (пад папярэднім кіраўніцтвам) „Плюс". Ужо самая вокладка гаворыць аб пэўным узроўні выдавецкай культуры. Быццам бы крыху павеяла Еўропай. Усяго тут пакрысе, але ўсё як бы на сваім месцы і ўжо яно ў пэўным сэнсе гаворыць аб профілі тыднёвіка. Ды і што тут дзіву дававацца — рэдагуюць не аматары, а прафесіяналы і то з вялікім вопытам, які здабывалі ў прынятых у краіне і чытачом рэдакцыях. Аднак не вопратка сведчыць аб душы. Перагарнуўшы каляровую вокладку, бачым змест і яго разнатэмнасць. Наогул усе польскамоўныя газеты і часопісы, а ўжо прынамсі большасць з іх (маю на думцы тыя, якія ў свой час паяўляліся на Беласточчыне), неяк дзіўна прамоўчвалі факт этнічнага каларыту гэтага рэгіёну. Ці гэта вынік новых умоў, ці тактоўная хітрасць, а мо сапраўды шчырае, але гэта праўда, што першы нумар зусім аб'ектыўна аднёсся да нацыянальнай рэчаіснасці паўночна-ўсходняй Польшчы.

Наогул кожная новая газета ці часопіс пачынаецца нейкай праграмай. „Плюс" гэтага пазбег. У кароценькім экспазе ад рэдакцыі справа пастаўлена ясна: „... зацікаўлены мы толькі і выключна падтрымоўваннем дыялогу з чытачом і стараннямі, каб рабіўся ён усё больш жывым, цікавым і карысным".

Нас, беларусаў, перш за ўсё цікавіць свой панадворак, нашыя патрэбы і нашыя праблемы. І трэба прызнацца, што новаўзнiклы тыднёвік даволі шырока закрануў гэтую тэму, пачынаючы ад справы найбольш балючай для ўсіх беларусаў і праваслаўных — Грабаркі. Цікавы рэпартаж Міхася Боўтрыка пад загалоўкам „Свята Спаса на Грабарцы", багата ілюстраваны здымкамі, прадстаўляе тую трагедыю, якая спаткала праваслаўных 12 ліпеня гэтага года. Прадаўжэннем закранутай М. Боўтрыкам тэмы з'яўляецца публіцыстычны тэкст Адама Да-

# НОВЫ ШТОТЫДНЁВІК І БЕЛАРУСКІЯ СПРАВЫ

лістоўскага „Святая гара Грабарка", у якім, пачынаючы ад падання аб паяўленні Грабаркі як культу праваслаўя, робіць ён павярхоўны нарыс яе гісторыі аж да часоў трагедыі, якую прадстаўляе ва ўспамінах веруючых.

Можа не адкрыўчым, але для многіх цікавым, асабліва для таго пакалення, якое будзе вывучаць новую, праўдзівую гісторыю Беларусі без ніякіх забарон і абмежаванняў, не пакрыёму, але адкрыта, з'яўляецца тэкст Часлава Сэнюха „Браніслаў Тарашкевіч. Тры акты драмы". У гэтым нумары надрукаваны першы акт, аб тым, як Тарашкевіча польскія ўлады перадалі Савецкай Беларусі.

Нейкай квінтэсэнцыяй беларускай тэмы ў „Плюсе", з'яўляецца тэкст Здзіслава Шпакоўскага „Беларусь у польскай перспектыве".

Тыднёвік, як вынікае з тэматыкі надрукаваных матэрыялаў, мае амбіцыі стаць прэсавай трыбунай культурнага сумежжа. Многія прабавалі, але па той ці іншай прычыне забываліся пра свае праграмныя дэкларацыі і адыходзілі ў больш выгадны для іх напрамак. Мо гэтым разам будзе інакш? Тэма сапраўды цалінная і лёгка можа прыцягнуць чытача. А гэта ж самае істотнае для кожнай рэдакцыі. Калі аднак гаварыць аб сумежжы і падыходзіць да тэмы салідна і аб'ектыўна, дык трэба сказаць, што паўночна-ўсходні рэгіён нашай краіны — гэта не толькі палякі і беларусы. І гэта заўважыў Казімеж Падлескі ў сваім тэксце пад загалоўкам „Пабрацімчыя справы".

Аднак, бадай што, найбольш увагі прыцягвае матэрыял Марка Зюлкоўскага „З раю не ўцякаюць". Аўтар закранае ў ім надта ж балючую справу, якой з'яўляецца паміранне вёскі на Беласточчыне. Дзе прычына? Аўтар якраз і шукае яе ў палітыцы ўлад.

На першы погляд „Тыднёвік" робіць добрае ўражанне. У змесце ўсяго пакрысе, хоць крыху не надта ўпарадкавана. Але ж гэта першы нумар! Многае тут залежыць і ад чытача. Ці ўтрымаецца на рынку? Хто цяпер можа нешта сказаць упэўнена? Адно толькі пэўнае — шанцы мае немалыя, а большыя яшчэ б меў, каб быў штомесячнікам.

**Міхась Шаховіч**

## З КРЫМІНАЛЬНАЙ СТАТЫСТЫКІ

— ✲ —

Міраслаў Б. прыехаў дадому на трохдзённую пабыўку з турмы ў Гайнаўцы. Гэтага хапіла, каб зноў залічыць бандыцкі ўчынак. Разам з малодшым братам яны напалі ў Бельску на Мікалая Б., пабілі ягэ, забіраючы ў яго скураную куртку, абутак, світар, нават прыгожыя шкарпэткі, электронны гадзіннік, сумку і 50 тыс. злотых. Агульная вартасць заграбленых рэчаў — больш 900 тыс. злотых.

— ✲ —

23 мая г.г. у Гайнаўцы Ян В. і Славамір Н. улезлі праз незачыненае акенца ў падвале ў дом Галены Д., рабуючы грошы і дарагія рэчы на суму 1 млн. 200 тыс. зл. У той жа дзень яны ў Сямяцічах вынеслі з дому Яна і Багумілы С. 50 рублёў, а таксама падрыхтавалі, каб вынесці, два кажухі, радыёмагнітафон „Sanyo" — усяго на суму 6 млн. зл., але ім перашкодзілі, вярнуўшыся, гаспадары дома. На наступны дзень тыя ж зладзеі ўлезлі ў хату Аркадзя Б. у Сямяцічах, забіраючы залатыя прадметы вартасцю 1,5 мільёна злотых. Абодва зладзеі шмат разоў ужо адседжвалі кары за падобныя злачынствы.

— ✲ —

Раённы суд у Беластоку засудзіў Марка Д. (30 гадоў) на 6 гадоў зняволення за нападзенне з нажом на Рэнату Ш. Злодзей адабраў у жанчыны два залатыя пярсцёнкі, гадзіннік і завушніцы.

— ✲ —

Мы ўжо паведамлялі чытачоў аб выпадку, які здарыўся ў сям'і Зінаіды К. Баронячыся ад пабояў п'янага мужа, Зінаіда К. схапіла металічную трубу і ўдарыла некалькі разоў мужа. Ад удараў Віктар К. памёр. Суд прысудзіў Зінаіду К. на 4 гады зняволення, а яе сыноў Юрку і Адама да 2 гадоў і 1 года і 6 месяцаў за ўдзел у бійцы. Усім тром суд завесіў кару на 4 гады, прызнаючы, што сям'я дзейнічала ў стане вельмі моцнай усхваляванасці.

— ✲ —

Васіль Д. (60 гадоў) асуджаны Ваяводскім судом на 10 гадоў зняволення за забойства ўласнай жонкі Вольгі, над якой шмат гадоў здзекваўся фізічна і маральна.




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

— 26 —

Дваццаць пятага сакавіка Выканаўчы камітэт Рады З'езда, спалучыўшыся з прадстаўнікамі земляцтваў і гарадскіх самаўрадаў і стварыўшы супольна Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, абвясціў Беларусь незалежнай і вольнай дзяржавай, каб не дазволіць далей чужынцам кіраваць беларускім народам, рваць яго на часткі, гандляваць Беларуссю на ўсясветным базары. Такім чынам, скінуты былі з беларускага народа путы няволі, якія прыгняталі яго ад вякоў.

Мінаў час, а прыгнёт кесарскага нямецкага ўрада не паменшыўся. З усёй краіны плылі ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі скаргі і пратэсты супраць гэтага прыгнёту. Аднак Рада нічога не магла зрабіць, бо яшчэ беларускі народ не патрапіў сабраць сілу для таго, каб моцным плячом падтрымаць сваю Раду. Не валодаючы сілай, Рада прабавала сваёй пакорлівасцю дапамагчы зняволенай Беларусі. Некалькі разоў Рада звярталася да нямецкага ўрада, просячы яго прызнаць незалежнасць беларусаў і даць ім магчымасць кіраваць сваёй зямлёй. Нямецкі ўрад кожны раз адмаўляўся.

Тым часам у Германіі выбухла рэвалюцыя, і нямецкія войскі не прагнулі заставацца на нашай зямлі, у адносінах да якой так несправядліва адносіўся папярэдні кесарскі ўрад.

Беларусь зноў становіцца свабоднай, а яе ўрад намерваецца правесці выбары ў заканадаўчы Сейм, які сваім голасам узмоцніць правы народа і ўстановіць дзяржаўную сістэму Беларусі. І хаця многа змен увяла рэвалюцыя, то ўсё-такі няшчаснай беларускай долі не змяніла. Чужацкія заваёўнікі не хацелі выпусціць са сваіх рук цугляў, у якіх дагэтуль трымалі беларускі народ. У Мінску, у Кіеве супольна з нашымі здраднікамі ствараюць яны фальшывыя ўрады і крычаць аб сваім праве панавання над беларускім народам, аб тым, што Беларусь у ніякім выпадку не можа быць вольнай і што абавязкова павінна зноў пайсці ў ярмо. Не шкадуюць пры гэтым вымыслаў, каб ачарніць Раду Рэспублікі і такім чынам абрыдзіць яе дзейнасць. Мэтай гэтых людзей было пасварыць беларусаў паміж сабой, а пасля, абяссіліўшы іх, аддаць у старую няволю пад панаванне нова́га цара і яго чыноўнікаў.

Рада Рэспублікі верыць аднак у светлы і здаровы розум нацыянальнасцяў у Беларусі, якія не дазволяць даць сябе ашукаць хітрым ворагам Рэспублікі. Яна, надалей працягваючы сваю работу для выканання сваіх задач, папоўніла новы склад Рады Беларускіх народных міністраў, якія павінны вывесці Беларусь на лепшы шлях, акрэсліць яе сапраўдную незалежнасць і даць працоўнаму люду зямлю, а рабочым лепшыя ўмовы працы, а таксама склікаць заканадаўчы Сейм Беларускай Народнай Рэспублікі.

Перад світаннем новага дня, які прынясе нашай Айчыне культурны росквіт, дзяржаўную незалежнасць, павінны абудзіцца ўсе жывыя дэмакратычныя сілы Беларусі. Кожны, хто хоча бачыць сваю айчыну Беларусь-пакутніцу вольнай, багатай і шчаслівай, кожны, хто прагне, каб беларускі працоўны люд даўжэй не пакутаваў ад запалохвання, ад няволі, няхай усюды яднае свае сілы, ствараючы на месцах беларускія рады і звязваючы іх з Радай Рэспублікі. Толькі ў такіх арганізацыях знаходзіцца цяпер уся ўлада на месцах да моманту склікання Заканадаўчага сейма, а не ў земствах, не ва ўрадніках і розных чужынных самазванцаў. Толькі на вёсцы павінен абаперціся Беларускі Народны Урад у сваіх дзеяннях.

Няхай разбуджаны рэвалюцыйны народ сам бароніць сваю волю і незалежнасць, правы на сваю родную зямлю і месца сярод усіх народаў свету.

Будзьце ўважлівымі, грамадзяне Беларускай Народнай Рэспублікі. Надыходзіць тадзіна канчатковага суда над народамі.

Няхай не пагасне ў нашых сэрцах жывы агонь замілавання да свабоды і агульнаграмадзянскага шчасця.

Няхай жыве незалежная Беларуская Народная Рэспубліка.

Няхай жыве беларускі працоўны люд і салідарнасць вольных народаў.

Няхай растуць беларускія сялянскія і рабочыя рады па ўсёй Беларусі.

Гэтага зместу грамату Рада Беларускай Народнай Рэспублікі аб'явіла ў Мінску 8 снежня 1918 г.

*(Працяг будзе)*

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Васіль Жуковіч

### СЛУХАЙ РОДНУЮ ПРЫРОДУ

У любую пару года,
у пагоду, ў непагоду
слухай родную прыроду, —
ты пачуеш галасы
таямнічае красы.

З лесам, з нівай залатою
размаўляе ветравей,
сонца-сонейка — з зямлёю,
з цішынёю — салавей,

з небам — рэкі і азёры,
хваля — з ніцаю вярбой...
Як і што яны гавораць,
слухай, сябра любы мой.



Фота В. Майсюка

І вось мы ў поездзе.

У мяне ў галаве круціцца план, як уцячы ад Міколкі і Аленкі.

— Ля вас месца не занятае? — неспадзявана чую побач.

Крыху скасіў вочы — на праходзе дзяўчынка стаіць.

— Ля нас не занятае, — буркнуў я ў адказ.

Другая, падобную гасціннасць сустрэўшы, іншае месца пашукала б. А гэтая хоць бы што. Села. І, адчуваю, ну проста кожнай клетачкай адчуваю, што на мяне глядзіць не адрываючыся. Аж неяк нядобра стала. Зноў скасіў вочы. Так і ёсць, не памыліўся. Як старога якога, з ног да галавы мяне аглядае. І чаго ўтаропілася? Чым спадабаўся ёй? Звычайна дзяўчаткі бокам мяне абыходзяць, а гэтая...

— Вы ў лес едзеце? Я не памылілася? — перапыніла мае думкі дзяўчынка.

— А табе якая справа? — адразу перайшоў я на ты.

— Проста так.

— Проста так не надакучваюць чалавеку, — кажу з гонарам.

А яна, не зважаючы на мой тон:

— Мяне Нінай зваць. А вас як?

— Ніяк.

— Задавака! — надзьмулася яна. Надзьмулася, але толькі на паўхвілінкі. — Я да бабулі еду. Праз два прыстанкі буду выходзіць. — А вы куды?

— На кудыкіну гару, — шапчу ў злосці.

— У вас ёсць пачуццё гумару, — і не думае крыўдаваць дзяўчынка на такую няўвагу. — А ўсё-ткі, калі па-сапраўднаму, куды вы едзеце?

— Рыбу лавіць. Ры-бу, — па складах вымаўляю першае, што прыйшло ў галаву.

— Дык вы рыбалоў?

— Рыбак.

— Рыбак? — перапытвае. — Такі малы, а ўжо рыбак?

Тут мяне Міколка лёгенька штурхае ў плечы:

— Давай, рыбак, на выхад. Прыехалі.

Прагрымеў коламі цягнік. Міколка і Аленка адышліся ўбок. Гаворку нейкую вясёлую завялі. Ажно заходзяцца ад смеху. З мяне смяюцца. З каго ж яшчэ? Ну і смейцеся на здароўе. Мне да вас справы няма. Вы сабе, а я сабе. Адпачну якую гадзіну ды назад у горад падамся. Смейцеся. Шукайце ўчарашняга дня.

Азіраюся навокал. Цікава, куды гэта прыехалі. Як ката ў мяшку, прывезлі мяне сюды.

— Алесь, — кліча Міколка, — хопіць стаяць. Хадзем.

Бач, без мяне абысціся не могуць. Не, даражэнькія, не выйдзе па-вашаму. Досыць. Дамоў хачу.




Пачатак у папярэдніх нумарах
(Урыўкі з кнігі „Гордзіеў вузел")

— Куды гэта хадзем? — як бы не разумею, чаго ад мяне дабіваюцца.

— Алфавіт шукаць. Мы ж сюды дзеля гэтага ехалі.

— Ат, выдумалі забаўку, — адмахваюся ад Міколкі, як ад дакучлівай мухі.

— Гэта зусім не забаўка, — не адступаецца ён і цягне за руку.

Адхіляю руку, вырываюся.

— Куды пойдзем? Куды? Тры дарогі ў полі разышліся? Так? Па адной пойдзеш — галаву згубіш, па другой пойдзеш — шчасця не ўбачыш, па трэцяй...

— Па трэцяй мы і пойдзем. — Міколка дастае з кішэні нейкую паперку. — Глядзі.

— Бязглуздзіца, — паціскаю плячыма.

— Сам ты бязглуздзіца. Перад табою адно з самых старажытных, піктаграфічнае, або з малюнкамі, пісьмо. Карцінным яго называюць.

Піктаграфічнае пісьмо... Гэта знаходачка. Пашанцавала ж Міколку. Хутка пра яго газеты напішуць, вучоныя за ручку вітацца будуць. Пашанцавала. Могуць нават і за мяжу запрасіць. Звычайна такія пісьмы на камянях, на скалах знаходзяць. А яго на паперы напісанае. Гм, на паперы... Штосьці не так. Ці можа быць піктаграфічнае пісьмо на паперы? Ні ў якім разе! Падробка гэта. Няўмелая падробка. Фальшыўка. Самі яны падрабілі. І мяне ў зман уводзяць.

— Схавай сваё пісьмо. Піктаграфічнае, — кажу пагардліва. — Хіба ў старажытнасці на паперы пісалі? Ды яшчэ на паперы ў клетачку?

— Табе разжуй ды яшчэ ў рот пакладзі, — зусім не бянтэжыцца Міколка. — Хіба не зразумеў, што пісьмо падкінутае? Хтосьці яго падкінуў, каб дапамагчы нам.

Я стаю, як у рот вады набраўшы.

— Пісьмо паказвае, дзе алфавіт схаваны, — заўважыўшы маю разгубленасць, тлумачыць Аленка.

— Няхай бы зразумела напісаў, як усе людзі пішуць, — кажу я.

— І я не супраць. Але, па ўсім відаць, наша грамата яму не вядома, — уздыхае староста.

— Ён са старажытнасці! З глыбокай старажытнасці! — міжволі ўсклікаю. — Як снежны чалавек.

— Хто яго ведае, снежны ці бясснежны, — разводзіць рукамі Міхола. — Галоўнае — душа ў яго добрая. Не пашкадаваў часу, каб пісьмо напісаць.

(Працяг будзе)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Мікола Маляўка

### ЛІЧЫЛКА

Нехта
Недзе
Яблыкі дзяліў:
— Табе, Федзя, — наліў,
Табе, Сцяпан, — шафран,
Табе, Сымон, — антон,
Табе, Пётр, — апорт,
Табе, сястрычка, — дзічка.
А табе, Даніла,
Не хапіла!

### ПРЫГАВОР

Ліпы, ліпы,
Расцвітайце ўсюды,
Цвету дайце
Ад прастуды,
Мёду дайце
Пчолкам,
Нам — таксама,
Каб паправілася мама.

### ЗАКЛІЧКА

Злезь, каток, з чарэні,
Не ўцякай у сені.
Ідзі, каток,
У наш гурток.
Пачытаем кніжку
Пра ката і мышку.

Васіль Хомчатка

### Клятва двух мужчын

Сяргейка нясмела заходзіць у татаў пакой. Тата нешта піша і не звяртае на яго ўвагі.

— Тата!

— Што табе?

— Я хачу, каб мы з табой ніколі не сварыліся.

— Добра, давай не будзем сварыцца.

— Ніколі-ніколі?

Тата ў знак згоды ківае галавой.

— Дай руку, — просіць Сяргейка.

— Тата перастае пісаць, кладзе на стол аўтаручку і ўважліва глядзіць на сына. Сяргейка смела пазірае тату ў вочы, толькі крыху моршчыць нос.

— Што ж, вось мая рука, — кажа тата.

Яны паціскаюць адзін аднаму рукі. А Сяргейка яшчэ прыгаворвае:

— Мірыцца, мірыцца і ніколі не сварыцца.

— Добра, добра, — згаджаецца тата і пытае: — А цяпер скажы, што здарылася?

Сяргейка дастае з кішэні цыбук і галоўку ад татавай люлькі.

— Зламалася. Чэсная слова, сама. Я толькі ўзяў у руку паглядзець, а яна ўпала на падлогу і зламалася.

Тата ўздыхае і ківае галавой: яму вельмі шкада гэтай люлькі — яна дарагі падарунак знаёмага марака. Насварыцца б на сына, каб не лазіў у шуфляду. Але як ты будзеш лаяць яго, калі толькі што яны паабяцалі адзін аднаму дружыць і ніколі не сварыцца.

Ніл Гілевіч

## БЕГ У ШКОЛУ ЗАЙКА

Склаўшы кнігі ў ранец,
Шэры Шарачок
Выйшаў з дому рана,
Каб паспець на ўрок.

Перайшоў ён рэчку
Бродам, па вадзе,
Бачыць: аж насустрач
Нейкі дзед ідзе.

На плячы — рыдлёўка,
Тарбачка ў руках.
Заю з дзедам нават
Павітацца страх.

Але дзед вясёлы:
— Добры дзень, Шарак!
Ты куды, — пытае, —
Разагнаўся так?

Зай азваўся ледзьве:
— Я... у школьны клас...
— О, ты вучань, значыць?
Дык у добры час!

Пасмялеў адразу
Шарачок тады
І ківае дзеду:
— А ты сам — куды?

Дзед хавае ўсмешку,
Вус каб не скрывіць:
— Ды іду ў дуброву
Мядзведзяў лавіць!

— Мядзведзяў? — не верыць
Зай сваім вушам.

Ты іх не баішся?
Нават ловіш сам?

— Сам! Рыдлёўкай гэтай
Вокал як звяду —
Дык адразу дзесяць
На зямлю кладу!

І якраз у гэты
Пераможны міг
Выйшаў Касалапы
З-за кустоў да іх.



Як угледзеў звера —
Кінуў зброю дзед
Ды хутчэй наўцёкі,
А шарак — услед.

Прыляцеў у школу —
Духу не звядзе.
Сварыцца настаўнік,
Роспыты вядзе.

— Што ж ты запазніўся?
Дзе ты, Заю, быў?
— Ды ў дуброве з дзедам
Мадзведзяў лавіў.

## Вершы Віктара Шведа

### Я ЎСТАЎ РАНА НЕЧАКАНА

— Ты гудзіш, як авадзень,
І марнуеш час без толку.
Як, скажы, за адзін дзень
Мог зрабіць ты глупстваў
столькі?

А на гэта Яраслаў
Адазваўся нечакана:
— Я ж, матуля, сёння ўстаў
Як ніколі, вельмі рана.

### СУМНАЯ ПЕСНЯ

— Ты пасведчанне прынёс
Нам слабенькае надзвычай.
Замест плакаць, тут пад нос
Песню нейкую мармычаш.

Адказаў на гэта Клім:
— Дык я, мама дарагая,
Песню сумную зусім
Ціха, ціха напяваю.

### НА ПЛЯЖЫ

Перапуд у зроку —
Соня ледзь гаворыць:
— Тата задалёка
Выплывае ў мора.

Адказвае Соні
Мама нечакана:
— Не хвалюйся, доню,
Ён застрахаваны.

### БРАНХІТ

Да лекара мама
Прывязла здалёк
Малога Адама:
Хвораныкі сынок.

— Скажы „а“, дзіцятка,
У цябе бранхіт.
— Скажу па парадку
Увесь алфавіт.

### ЗАБАВА Ў ІНДЗЕЙЦАЎ

— Чырвоныя вочы
Маеш, як ніколі.
Індзейцы да ночы
Трымалі ў няволі?

Адказвае Лёня
Сваёй маме шчыра:
— Курылі мы сёння
Ужо люльку міру.

### СТАТЫСТ

— Тэатр кожны мае,
Вядома, артыстаў,
Каго ж называем
Там, мама, статыстам?

— Статысты заўзята
Стаяць, не гавораць.
— Дык гэта ж наш тата! —
Адказвае Бора.

### ЯК ЗАВУЦЬ БАЦЬКОЎ?

На падворку гарадскім
Дзетак вельмі многа.
Скрыўдзіў тут гарэза Клім
Хлопчыка малога.

— Як завуць тваіх бацькоў?
Пойдзем мы дахаты.
Выхад раптам Клім знайшоў:
— Матуля і тата.

### РАКА ІГРАЕ НА ГАРМОНІКУ

Тата-рыбалоў узяў
На раку малую Алю.
Моцны вецер хутка гнаў
Па рацэ за хваляй хвалю.

Працягнулася рука,
Адазвалася малая:
— Глядзі, тата, як рака
На гармоніку іграе!




## БЕЛАРУСКІ ПЕРШАДРУКАР
(У 500-годдзе з дня нараджэння)

— 13 —

Недзе каля 1520 года Францыск Скарына пераязджае ў Вільню — сталіцу Вялікага княства Літоўскага. Яно далёка разлеглася з захаду на ўсход і ад вярхоўяў Волгі на поўначы да прычарнаморскіх стэпаў на поўдні. Але якраз у тыя часы Скарыны ўласна рускія землі пачынаюць паступова адыходзіць да Рускай цэнтралізаванай дзяржавы. Беларускія землі адыгрывалі значную ролю ў гаспадарчым і культурным жыцці Вялікага княства Літоўскага. Беларуская мова тут дзяржаўная. (Заўважым, між іншым, што літоўская мова ніколі не была дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім, а землі, на якіх жылі сённяшнія літоўцы, тады называліся Аукштайціяй і Жмуддзю. Значэнне слова „літвін“ як назву жыхара княства не трэба блытаць з сённяшнім словам „літовец“ як абазначэнне нацыянальнасці.) На беларускай мове працуе канцылярыя вялікага князя, на ёй вядзецца перапіска з краінамі Усходняй Еўропы і часткова з Польшчаю. Толькі ў дыпламатычных зносінах з краінамі Заходняй Еўропы па-ранейшаму як афіцыйная ўжывалася лацынь.

... Зачуўшы родную мову, Францыск Скарына раптоўна адчуў, як стала на сэрцы лёгка. З яго, нібы нейкі цяжар, спала тая напружанасць, якую, здаецца, і не вельмі адчуваеш, жывучы гадамі на чужыне, але якая, аказваецца, увесь час была з табою. Вуха першым адчувае зварот у блізкія да дому мясціны.

Сустрэча з родным братам, які пасля бацькавай смерці быў для яго бацькам і другам... Абдымкі з мілымі віленцамі, якія прыйшлі на сустрэчу і якія шчыра дапамагалі яму і добрым словам і грашыма ў яго нялёгкім выданні родных кніг на чужыне. На іх ускладаў Францыск і цяпер немалыя надзеі.

І трэба ж было — у першы дзень прыезду — нечаканая сустрэча тут на вуліцы са сваімі землякамі - палачанамі. Яны прыехалі да вялікага князя са скаргаю на ваяводу...

У родным доме і сцены памагаюць. Неўзабаве пры рынку ў доме „найстарэйшага бурмістра слаўнага і вялікага горада Віленскага“, запрацавала Скарынава друкарня. І вось Вільня трымае ў руках першыя друкаваныя кнігі ў гэтых землях — „Малую падарожную кніжыцу“ і „Апостал“.

Цяпер — амаль праз пяцьсот гадоў — Скарынавых кніг вы нідзе паблізу не знойдзеце. Нават у Мінску толькі ў адной самай галоўнай — Дзяржаўнай бібліятэцы БССР — ёсць толькі некалькі такіх кніг. Крыху больш у Маскве і Ленінградзе. Асобныя кнігі знаходзяцца за мяжою — у Лондане, Капенгагене і нават далей, за акіянам, у Амерыцы.

Цяпер цана адной такой кнігі сягае соцень тысяч рублёў. Неяк у адной з маскоўскіх газет пісалася, што на аўкцыёне ў ЗША была прададзена няпоўная — без пачатку і канца — кніга Скарыны за некалькі дзесяткаў тысяч долараў... Вось... чаму некаторыя з такіх кніг захоўваюцца цяпер у сейфах.

**(Працяг будзе)**

**(З кнігі А. Клышкі „Францыск Скарына“)**




### ШАНОЎНАЯ „ЗОРКА“!

Я была ў Мінску ў гасцях, а жыву далёка. Хачу знайсці сяброўку ў Польшчы, з якой магла б перапісвацца па-беларуску. Мой адрас: СССР 171110, Тверская обл., д. Вышний Волочек, ул. 9 Января 45/46, кв. 115. Ворошиловой Ирине. (13 год).



### А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А

*Ляжала ў лесе грушка. Пасяліўся ў ёй чарвячок. Добра яму тут жывецца. Запрасіў ён да сябе ў госці свайго прыяцеля. А той падыйшоў да грушкі і не ведае, як трапіць у хатку свайго сябра. Памажыце яму.*



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) +, 3) 100 л, 5) любіць па-сучаснаму апранацца, 7) з вучнямі, 10) вялікая марская драпежная рыба, 12) дзве жэрдкі па баках каня, 13) еўрапейская сталіца, 14) беларускае возера, 16) вялікая крама, 18) калыска для дарослых, 19) колькасць экземпляраў, 21) бярэцца ад прастуды, 22) граніца, рубеж, 23) асноўная частка паветра.

**Уніз:** 1) + (е=ш), 2) надта ліпне (чэрці яе вараць), 3) з палазамі, 4) скончылася ў верасні, 6) беларусы, 8) „пякучы" Кандрат, 9) з'едзены яблык, 10) ад А да Я, 11) арэшына, 15) няўхільны лёс, 16) не сыплецца з неба, 17) фільтр у арганізме чалавека, 18) з яснага неба — не бывае, 20) несур'ёзны ў „Ніўцы".

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку, змешчаную ў № 34.**

**Упоперак:** вапна, хор, пакт, салют, вупраж, этап, лянок, расізм, нераст, карова, штукар, эпіка, мыла, павіян, лявак, ляхі, нос, язмін.

**Уніз:** васал, паляне, аптэка, ступа, харкі, рэжым, кварта, янот, Орск, сноп, знак, скрыня, рэалія, вігвам, шыпун, урвіс, амяла, аркан.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Аляксандр Дабчынскі з Бацютаў і Лукаш Пацэвіч з Беластока.

# НІЎКА

## НА ЭСТРАДЗЕ І Ў ЖЫЦЦІ

* * *

Ігнацы Падарэўскі пабываў калісьці ў малым мястэчку каля Нью-Йорка. Гуляючы на вуліцы, пачуў праз адкрытае акно, як хтосьці страшэнна кепска іграе на раялі яго менуэт. Увайшоў ён у дом і ўбачыў групу дзяўчат, абступіўшых пажылую жанчыну, якая іграла на сваім „бехштэйне".

— Божа, як вы кепска іграеце! — усклікнуў. — Я Падарэўскі. Зараз я вам пакажу, як трэба правільна іграць.

Кампазітар адсунуў „настаўніцу музыкі", сам сеў за раяль і цудоўна выканаў свой менуэт, а потым выйшаў.

Назаўтра, праходзячы каля гэтага дома, маэстра ўбачыў над яго дзвярыма шыльду з надпісам: „Міс Гвендален Прысні, вучаніца Падарэўскага, дае ўрокі ігры на фартэпіяна".

* * *

Амерыканская кіназорка Одрэй Гепбэрн паведаміла сваю сяброўку, што яна парвала кантакт са сваім нарачоным, вядомым лекарам, з увагі на яго скупасць.

— Ці ж ён не патрабаваў ад цябе вярнуць падарункі?

— Але ж так, — адказала Гепбэрн, — і яшчэ прыслаў мне рахунак за 32 візіты ў яго.

## „ГОРКА!"

Юрась надумаў жаніцца. Для ягонага ўзросту — трыццаць тры гады стукнула! — гэта быў геройчны ўчынак. У нявесты нагледзеў ганарлівую прыгажуню Анюту.

Сабе Юрась купіў новенькі касцюм, мадняцкія чаравікі і белую, як першы снег, кашулю. Праўда, Анюта нешта круціла носам — мусіць, сумнявалася ў правільнасці свайго выбару. Але Юрась быў упэўнены: калі нявеста ўбачыць шыкоўную сукенку, туфлі-лодачкі і абручальны пярсцёнак, у яе душы адразу ўспыхне палымянае пачуццё.

Талоны, якія выдалі яму ў ЗАГСе, Юрась насіў каля сэрца — як самы каштоўны скарб. А за тыдзень да вяселля жаніх і нявеста рушылі ў раённы універмаг, дзе нядаўна адкрылі салон маладажонаў.

Юрась урачыста правёў сваю будучую „палавіну" праз гандлёвую залу, і нібы чараўнік, расхінуў перад ёю шторы салона. Астатнія пакупнікі глядзелі з зайздрасцю: для іх сюды ходу не было. Юрась млеў ад шчасця.

Не адразу заўважыў ён, як спахмурнеў твар Анюты, а яе кірпаты носік зморшчыўся, паказваючы перамену надвор'я.

— І ў гэта ты збіраешся мяне апранаць?

У кутку сіратліва віселі белыя сукенкі фасону і ўзору позняй сталіншчыны. А ў басаножках, што пыліліся на паліцах, нават „міс СССР" выглядала б каракаціцай. Юрась яшчэ спадзяваўся разжыцца тут якой бялізнай ці адэкалонам, але нічым падобным у салоне нават і не пахла...

Анюта „кіпела":

— Наабяцаў мне залатыя горы, а сам нават сукенку не можаш купіць!

— Любая, пачакай! — узмаліўся Юрась. — Паедзем у Мінск, там я цябе атавару.

У сталічных салонах вочы сапраўды разбягаліся ад розных сукенак і туфелек. Але строгая прадаўшчыца іранічна зірнула на працягнутыя талоны:

— Перыферыйцаў мы не абслугоўваем.

Калі вечарам маладажоны вярнуліся ў Мар'іну Горку, Анюта на развітанне моцна пацалавала Юрася. А раніцай яму пратэлефанавала:

— Ты прабач мне, мой харошы... Але калі нам з самага пачатку не шанцуе... І калі ўсё жыццё так... Словам, схадзі забяры заяву...

З-за адчування таго, што яму ўжо ніхто не крыкне „Горка!" Юрасю сапраўды зрабілася горка...

**А. Грышкевіч**
*(„Вожык")*

## АБ'ЯВЫ

Наменклатуршчык пасля рэструктурызацыі пogлядаў — прыме новую атракцыйную пасаду.

* * *

Маладых энергічных д'ябlaў — прыме на работу польскае пекла.

* * *

З прычыны вялікага запатрабавання на спонсараў — адкрываем гадоўлю спонсараў спансараваных.

* * *

Акцыянеры ўсіх краін — яднайцеся.

* * *

Кабінет палітычнага абнаўлення — рэкамендуе працэдуры і лячэнне.

*(„Шпількі")*

# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"

ul. Suraska 1

15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1991 r. upływa 20 listopada 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty na I kwartał 1991 r. wynosi 10.400 zł + 3.250 zł za doręczenie. W 1991 r. cena 1 egz. wynosić będzie 800 zł.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.300 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— październik — 5.200 zł,
— listopad — 5.200 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 16.900 zł

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Zam. 1371/90